№ 2(74)
Студзень 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна"


Служба ў іх такая — уладу абараняць...
Фота "ПнВ"

# Перадвыбарчая мітусьня,

## альбо Чаму Лукашэнка баіцца прэзідэнцкіх выбараў

Дзякуючы незаконным, нелегітымным зьменам у канстытуцыі А.Лукашэнка ў 1996 годзе прадоўжыў тэрмін свайго панаваньня ў Беларусі да сямі гадоў. Але любы адрэзак часу мае адну дужа непрыемную для дыктатараў уласьцівасьць: хутка скарачацца і ўрэшце заканчвацца...

І вось ужо хочаш таго ці ня хочаш, але сёлета павінны адбыцца прэзідэнцкія выбары. Як ні рыхтаваўся да гэтага Лукашэнка, але ў выніку аказаўся зусім негатовым. Пра гэта сьведчаць і падзеі апошніх часоў: нелегітымны беларускі прэзідэнт раптам замітусіўся і пачаў рабіць захады дзеля таго, каб зрабіць вынікі маючых адбыцца выбараў максімальна прагназуемымі, цалкам прадказальнымі.

Адну з першых атак Лукашэнка скіраваў на інстытут незалежных назіральнікаў, а таксама на місію АБСЕ ў Беларусі, якая мяркуе стварыць групу назіральнікаў за прэзідэнцкімі выбарамі. Лукашэнка ў інтэрв'ю нацыянальнаму тэлебачаньню назваў назіральнікаў ні больш, ні менш — "баевікамі, якія раніцай сеюць, а ўвечары дастаюць зброю з-пад ложкаў", і зноў прыпалохаў свой народ "югаслаўскім варыянтам" і бамбардзіроўкамі "баепрыпасамі, начыненымі нібыта неабагачаным уранам". Так, Лукашэнка баіцца югаслаўскага варыянту, але пагроза яму ідзе, зразумела, не ад міфічных "14 тысячаў баевікоў АБСЕ", а ад таго, што назіральнікі ў Беларусі, як і ў Югаславіі, змогуць забясьпечыць рэальныя, а не падтасаваныя вынікі выбараў. Бо ў Беларусі цягам апошніх гадоў склалася "традыцыя", што перамагае на выбарах і рэферэндумах той, хто падлічвае вынікі... Каб перастрахавацца, Лукашэнка і абвясьціў, што бярэ пад кантроль бюджэт місіі АБСЕ ў Беларусі, бо яна, нібыта, "фінансуе апазіцыю"...

Наступны ўдар Лукашэнкі — па незалежных СМІ. Паколькі тэлебачаньне і радыё ў Беларусі выключна дзяржаўныя і адпаведна прапрэзідэнцкія, дык прыйшоўся ён па беларускай прэсе. Апошнім часам фактычна была паралізаваная дзейнасьць прыватнай друкарні "Мэджык", дзе друкавалася большасьць незалежных выданьняў, пачатыя масавыя праверкі іншых недзяржаўных друкарняў. Напрыканцы студзеня ўзбуджаная крымінальная справа супраць газеты "Наша свабода". Але самае галоўнае чакаецца наперадзе: у друк трапіў праект закону "Аб інфармацыйнай бясьпецы", які павінен быць прыняты парламентам у бліжэйшым часе. Ужо сама назва законапраекту гаворыць пра тое, што асноўныя палажэньні яго скіраваныя на абмежаваньне свабоды слова ў Беларусі. Такім чынам, "зачыстка" інфармацыйнай прасторы ў краіне перад выбарамі будзе мецъ працяг.

Дарэчы, і ў новым Крымінальным кодэксе РБ, які ўступіў

(Працяг на стар.7)

## Хроніка

*10 студзеня* скончыўся 18-месячны тэрмін утрыманьня пад вартай абвінавачваемага *Зьміцера Абадоўскага* (сына вядомага магілёўскага праваабаронцы Сяргея Абадоўскага), які быў затрыманы 10 ліпеня 1999 г. Згодна з ч. 2, 4, 6 арт. 127 КПК Беларусі, прынятага з 1 студзеня 2001 г., далейшы працяг тэрміну ўтрыманьня пад вартай падчас папярэдняга сьледзтва не дапускаецца, і абвінавачваемы падлягае неадкладнаму вызваленьню з-пад варты. Пры гэтым у адносінах да яго павінна быць прыменена іншая мера стрыманьня. Нагадаем, што справа З.Абадоўскага пасьля судовага разгляду была накіраваная на дадатковае расьсьледваньне. Разам з тым новы КПК не прадугледжвае "вылічэньне" з агульных тэрмінаў утрыманьня пад вартай часу знаходжаньня справы ў судзе, бо адсутнічае само палажэньне аб "накіраваньні справы на дадатковае расьсьледваньне судом". 9 студзеня абаронцам З. Абадоўскага, ягоным бацькам С.Абадоўскім, было заяўленае хадайніцтва сьледчаму УСК пры МУС па Магілёўскай вобласьці Гарадкову І.І. аб вызваленьні З. Абадоўскага не пазьней за 10 студзеня, але сьледчым было прынятае рашэньне вынесьці Пастанову па гэтым хадайніцтве ў трохдзённы тэрмін, што азначае, што ў дадзеным выпадку парушаюцца законныя тэрміны ўтрыманьня пад вартай абвінавачваемага. Абаронца Сяргей Абадоўскі накіраваў скаргу на імя пракурора Магілёўскай вобласьці, дзе выклаў законныя патрабаваньні адносна вызваленьня сына з-пад варты.

(Працяг на стар. 6-7)

# Павел ЖУК:
# "Трэба незалежная псіхіятрычная эксьпертыза"

***Пракуратура РБ узбудзіла крымінальную справу па факце публікацыі ў незалежнай газеце "Наша Свабода" 12 студзеня дыягназу А.Лукашэнкі, які быў пастаўлены магілёўскім псіхіятрам Дзьмітрыем Шчыгельскім – "мазаічная псіхапатыя з перавагай рысаў паранаідальнага і дысацыяльнага разладу асобы". "Урачэбнае заключэньне" было дасланае ў рэдакцыю па электроннай пошце з ЗША, дзе зараз знаходзіцца псіхіятр Дзьмітры Шчыгельскі. У сувязі з публікацыяй у пракуратуры РБ створаная сьледча-аператыўная група з супрацоўнікаў пракуратуры і Камітэту дзяржаўнай бясьпекі. Галоўны рэдактар "Нашай свабоды" Павел ЖУК лічыць: пракуратура, павінна будзе даказаць у судзе, што публікацыя сапраўды зьяўляецца паклёпам. Зрабіць гэта можна будзе толькі з дапамогай незалежных эксьпертаў — псіхіятраў. Карэспандэнт "ПнВ" сустрэўся з Паўлам Жуком і папрасіў яго пракаментаваць апошнія падзеі.***



Павел ЖУК

"Прэс-служба пракуратуры распаўсюдзіла паведамленьне, што будзе ўзбуджаная крымінальная справа па факце паклёпу на вышэйшую службовую асобу дзяржавы. У дадзеным выпадку яны зрабілі вялікую памылку. Па-першае, дзе вы бачылі, каб пракуратура, узбудзіўшы крымінальную справу, адразу ж праз прэсслужбу знаёміла з ёй грамадзтва – для нас гэта справа небывалая. Па-другое, заведзеная крымінальная справа накладае на пракуратуру абавязак даказаць факт паклёпу. На думку нашых адвакатаў, публікацыя ў газеце "Урачэбнага заключэньня" Д.Шчыгельскага, не зьяўляецца паклёпам. У публікацыі няма спасылак на нейкія невядомыя факты, ёсьць толькі цытаваньне відэаматэрыялаў, аўдыёзапісаў, газетных матэрыялаў – таго, што ўжо даўно вядома, што ўжо ня раз друкавалася. Акрамя таго, у гэтай публікацыі не прагледжваецца злы намер. У публікацыі няма ніводнага слова ад рэдакцыі газеты. Гэтая праца, якую зрабіў спадар Шчыгельскі, носіць чыста медыцынскі характар. Гэта канстатацыя факту – дыягназ. І ён павінен быць пацьверджаны псіхіятрамі.

Сітуацыя такая: калі б яны запусьцілі грамадзянскі зыск, справу разглядаў бы раённы суд, які мог бы выставіць вялікі па памерах штраф і прыпыніць выпуск газеты. Газета ня ў стане была б заплаціць такія грошы і перастала б выходзіць. Такім чынам яны б проста зачынілі газету – адпомсьцілі па сваім розуме...

Але атрымалася па-іншаму. У дадзеным выпадку, я думаю, быў проста ціск Лукашэнкі на Шэймана, які ня маючы ні дастатковай адукацыі, ні магчымасьці супрацьстаяць "шэфу", спусьціў усё на пракуратуру... Пракуратура ж завяла крымінальную справу...

Але ў гэтым выпадку, каб даказаць факт паклёпу, яны мусяць прызначыць псіхіятрычную эксьпертызу грамадзяніна Лукашэнкі А.Р. і стварыць камісію.

У камісіі павінны быць незалежныя эксьперты, як беларускія, так і замежныя. Эксьперты здолеюць зрабіць высновы. Гэтая камісія, па-першае, павінна быць кампетэнтнай. Па-другое, камісія мусіць быць прымальнай для ўсіх – як для прыхільнікаў Лукашэнкі, так і для яго апанентаў, каб задаволіла ўсіх і сваёй камептэнтнасьцю і складам.

Калі "урачэбнае заключэньне" будзе абмяркоўвацца кулуарна, гэта выкліча негатыўны рэзананс, у першую чаргу для чалавека, які кіруе Беларусьсю. Узьнікне пытаньне, што ён нешта хавае, нечага баіцца – гэта будзе пацьверджаньне дыягназу.

***Каментар "Вясны":***

Справа па факце публікацыі ў газеце "Наша свабода", узбуджаная па арт. 367 ч. 1 Крымінальнага кодэксу РБ, які ўступіў у сілу з пачатку 2001 году. Па гэтым артыкуле КК РБ прадугледжваецца пакараньне ў выглядзе штрафу ці папраўчых работаў на тэрмін да 2 гадоў, альбо абмежаваньне свабоды на тэрмін да 4 гадоў ці пазбаўленьне волі на той жа тэрмін...

**Падрыхтавала**
**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА.**

---

# Спыніць перасьлед "Вясны"...

***9 студзеня Міжнародная ліга правоў чалавека даслала ліст непасрэдна А.Лукашэнку, у якім выказала сур'ёзную заклапочанасьць фактамі ўціску Праваабарончага цэнтру "Вясна". Вось гэты ліст:***

"...Міжнародная ліга правоў чалавека, міжнародная недзяржаўная праваабарончая арганізацыя з кансультатыўным статусам у ECOSOC UN, піша вам, каб выказаць сур'ёзную заклапочанасьць у сувязі з перасьледам "Вясны", вядомай беларускай недзяржаўнай праваабарончай арганізацыі.

19 снежня 2000 году "Вясна" атрымала другое папярэджаньне ад Міністэрства юстыцыі, у якім сьцьвярджаецца, што Цэнтр не адказаў на першае папярэджаньне Міністэрства, і ўтрымлівае пагрозу зачыніць арганізацыю ў тым выпадку, калі на працягу двух тыдняў ня будзе атрыманы пісьмовы адказ. У першым папярэджаньні, дасланым 26 кастрычніка 2000 году, сьцьвярджалася, што назва арганізацыі не супадае з назвай, пазначанай у пасьведчаньні аб яе рэгістрацыі. Паводле меркаваньня Міністэрства, замест няправільнай назвы "Праваабарончы цэнтр "Вясна" ў дакументацыі і літаратуры павінна стаяць "Грамадзкае аб'яднаньне "Праваабарончы цэнтр "Вясна". Нягледзячы на настойлівыя сьцьвярджэньні Мінюсту, што "Вясна" не адказала, Вялянцін Стэфановіч, юрыст "Вясны", сьведчыць, што ён даслаў адказ на першае папярэджаньне 27 лістапада 2000 году. Больш за тое, розьніца паміж "Праваабарончым цэнтрам" і "Грамадскім аб'яднаньнем "Праваабарончы цэнтр" вельмі нязначная. Падаецца, што яна была сьпецыяльна выкарыстаная дзеля ўціску на дадзеную арганізацыю.

Папярэджаньні Мінюсту аказваюцца часткай кампаніі перасьледу ў адносінах да гэтай і іншых праваабарончых групаў Беларусі, якія адкрыта і бескампрамісна адстойваюць правы чалавека. Па меры таго, як гэтыя групы карыстаюцца ўсё большай папулярнасьцю і падтрымкай насельніцтва, адносіны ўраду да іх становяцца больш жорсткімі. У прыватнасьці, Міністэрства юстыцыі дамагалася ад "Вясны", каб яна пакінула па-за рэгістрацыйнымі дакументамі права абараняць правы чалавека, сваю першасную функцыю. Гэта з'яўляецца грубым парушэньнем абавязацельстваў Беларусі у межах працы АБСЕ па падтрыманьні міжнародных стандартаў свабоды слова і сходаў, а таксама права ведаць свае правы і карыстацца імі і абавязацельства падтрымліваць прынцыпы Дэкларацыі аб праваабаронцах, прынятай Генеральнай Асамблеяй Аб'яднаных Нацый. Насамрэч, заявы некаторых дзяржаваў, што абарона правоў чалавека не ўключае прызнаньне права на адваката і права на абарону для шырокіх слаёў грамадзтва, былі адвергнутыя падчас перамоваў па дадзенай дэкларацыі і ў яе канчатковым сэнсе.

Ліга заклікае вас і ваш урад тэрмінова спыніць перасьлед "Вясны" ды іншых НДА у рамках выкананьня міжнародных абавязацельстваў і заяўленага вамі намеру легалізаваць НДА.

Беларусь ня зможа разглядацца як частка Еўрапейскай супольнасьці, пакуль урад не прыме належныя захады па захаваньні і падтрымцы асноўных свабодаў.

Дзякуй за ўвагу. Чакаем вашага адказу.

Шчыра вашая,

**Кэтрын ФІЦПАТРЫК**
**Выканаўчы дырэктар.**

думку супрацоўнікаў арганізацыі, пасьля заканчэньня семінару, калі памяшканьне зачынялася, нехта схаваўся пад лесьвіцай. Паколькі было шматлюдна, зрабіць гэта было няцяжка. Пасьля таго, як у офісе нікога з супрацоўнікаў не засталося, невядомыя рабаўнікі ўзламалі ўваходныя дзьверы знутры і вынесьлі з офісу 7 кампутараў з маніторамі, 3 прынтэры, сканер і факс. 27 студзеня зранку першай разрабаваны офіс і ўзламаныя дзьверы ўбачыла прыбіральшчыца, потым зьявіліся супрацоўнікі "Вежы", якія і выклікалі міліцыю. Па факце рабунку ўзбуджаная крымінальная справа.

***31 студзеня*** Сусьветная кампанія за свабоду слова Article 19 зрабіла заяву адносна праекту Закону РБ "Аб інфармацыйнай бясьпецы". У заяве Article 19 гаворыцца, што арганізацыя вельмі занепакоеная планамі ўвесьці ў Беларусі заканадаўства, накіраванае на забесьпячэньне "інфармацыйнай бясьпекі" ці "абароны інфармацыі", і лічыць гэта яшчэ адным прамым ударам па свабодзе сродкаў масавай інфармацыі. Асабліва, гаворыцца ў заяве, гэтыя планы выклікаюць вялікую заклапочанасьць у сьвятле будучых прэзідэнцкіх выбараў, а таксама і без таго плачэўнага стану незалежных сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі.

***31 студзеня*** адбылася сустрэча віцэ-прэм'ера Беларусі Міхаіла Дзямчука з роднымі загінулых на Нямізе 30 траўня 1999 году (сем'ямі Іньковых, Янцовых, Навакоўскіх, Бобрыкавых, Губскіх, якія складаюць Раду Цэнтру сацыяльнай абароны "Няміга-99"). Абмяркоўваліся тры асноўныя праблемы: аб наданьні сем'ям статусу сем'яў загінулых; аб ушанаваньні памяці загінулых 30 траўня і ўзьвядзеньні належнага помніку на месцы трагедыі; аб зацягваньні сьледзтва па справе, узбуджанай Гарадзкой пракуратурай па факце трагічных падзеяў і гібелі 53 чалавек. Асаблівыя спрэчкі ўзьніклі падчас абмеркаваньня праблемы ўсталяваньня належнага помніку на месцы гібелі людзей. Міхаіл Дзямчук выслухаў патрабаваньні і довады бацькоў і паабяцаў, што рашэньне па гэтых праблемах будзе прынятае пасьля дасканалага вывучэньня праз 2 тыдні, пра што будзе абавязкова паведамлена сем'ям.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна».**

# ...Удар па незагоеных ранах

***Мінскія гарадзкія ўлады адмовілі бацькам загінулых на Нямізе дзяцей правесьці 27 студзеня пікет на прасьпекце Машэрава і накіравалі іх на плошчу Бангалор. Асноўнае патрабаваньне бацькоў – пабудова капліцы на месцы, дзе загінулі іх дзеці. Але ў чарговы раз яны сутыкнуліся з абыякавасьцю чыноўнікаў.***

У адказе Мінгарвыканкаму на просьбу бацькоў, сказана:

"У Мінскім гарадзкім камітэце разгледжаная Ваша заява пра правядзеньне 27 студзеня пікету з мэтай прыцягненьня ўвагі грамадзкасьці да вырашэньня пытаньня "по увеличению" памяці загінуўшых у пераходзе на станцыі метро "Няміга". З улікам неаднаразовага абмеркаваньня адзначанай праблемы на ўзроўні адказных асобаў гарвыканкаму лічым, што ўстаноўлены памятны знак у зоне трагедыі не патрабуе ніякіх дадатковых архітэктурна-мастацкіх рашэньняў. Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, а таксама ў адпаведнасьці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсьцях, дэманстрацыях і пікетаваньні", Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 9 верасьня 1999г. №36 і рашэньнем выканкаму ад 17 сьнежня 1999 году №1330 "Аб месцах і парадку правядзеньня масавых мерапрыемстваў у г.Мінску, Вы маеце права правесьці 27 студзеня 2001 году з 12.00 да 16.00 пікет у парку Дружбы Народаў (раён плошчы Бангалор, без стварэньня перашкодаў пешаходнаму і транспартнаму руху і агульнай колькасьцю ўдзельнікаў 50 чалавек. Канкрэтнае месца правядзеньня мерапрыемства ўзгадніць з ГУУС Мінскага гарвыканкаму.

Разам з тым нагадваем, што за парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацый і пікетаваньня прадугледжаная адказнасьць".

Нагадаем, што згаданы Дэкрэт №36 А.Лукашэнкі быў прыняты якраз пасьля трагедыі на Нямізе з мэтай, каб падобныя выпадкі не паўтарыліся. І вось цяпер, калі бацькі вырашылі прыцягнуць увагу грамадзкасьці і ўладаў да ўшанаваньня памяці іх дзяцей, ім не дазволілі пікетаваньне, спаслаўшыся якраз на той самы дэкрэт... Абсурд, дый годзе.




*Фрагмент "Сьцяны Памяці" ў падземным пераходзе станцыі метро "Няміга".*

Бацькі, зразумела, адмовіліся праводзіць пікет на плошчы Бангалор і напісалі ліст на імя старшыні Мінгарвыканкаму:

"Мы, бацькі дзяцей, трагічна загінулых у пераходзе станцыі метро "Няміга" 30 траўня 1999 году, атрымаўшы адказ на нашу заяўку аб правядзеньні пікету 27 студзеня 2001 году, да глыбіні душы абураныя і не знаходзім тлумачэньня такім несправядлівым адносінам гарадзкіх уладаў да нас. Больш за тое, расцэньваем гэта як зьдзек над намі, забітымі горам.

Мы адмаўляемся ад прадастаўленага Вамі права правесьці пікет у адзначаным месцы і просім дазволіць правесьці пікет 10 лютага 2001 году з 12.00 да 16.00 паблізу пераходу ст. метро "Няміга", на дазволенай Дэкрэтам №36 адлегласьці, без стварэньня перашкодаў пешаходнаму і траспартнаму руху і агульнай колькасьцю ўдзельнікаў да 50 чалавек. Усе дакументы, на якія вы спасылаецеся, дзейнічалі і 4 лістапада 2000 году, аднак яны не зьявіліся прычынай для пераносу месца правядзеньня пікету, які мы праводзілі на законных падставах у той дзень.

Чаму ж вы цяпер хочаце накіроўваць нас у месца, дзе выгульваюць жывёлаў?

Мы змагаемся не за "увеличение памяти", як вы напісалі ў лісьце, а за "увековечение памяти", каб людзі памяталі, каб такое больш не адбылося ні з кім ніколі.

Апрача таго, хочам дадаць, што месца паблізу пераходу ст.метро "Няміга" абранае намі не выпадкова. Гэта месца, дзе засталіся апошнія сьляды нашых дзяцей, за некалькі хвілінаў перад страшнай гібельлю. Таму прапанова аб пераносе пікету ў іншае месца наносіць новыя ўдары па незагоеных ранах у нашых сэрцах. Спадзяемся на ўзаемаразуменьне і падтрымку".

# Перадвыбарчая мітусьня

(Пачатак на стар.1)

у сілу з пачатку гэтага году, па ацэнках незалежных юрыстаў, зьмякчэньні адбыліся ў адносінах да крымінальнікаў, а ў адносінах да апазіцыі артыкулы КК РБ сталі больш жорсткімі. Не прайшло і месяца, як пачаў прымяняцца арт. 368 "Зьнявага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь". Крымінальныя справы па ім узбуджаныя супраць трох пікетоўшчыкаў з г.Барысаву і газеты "Наша свабода".

Асабліва замітусіўся Лукашэнка пасьля сваіх нядаўніх няўдалых візітаў у Маскву. Расійскія ўлады пакуль не далі яму ніякіх гарантыяў, што падтрымаюць адзінага "саюзьнічка" на выбарах. Маскве, відавочна, абрыдла непрадказальнасьць і залішняя балбатлівасьць "бацькі".

Дата выбараў яшчэ не названая, але Лукашэнка сваю выбарчую мітусьню і гульню ў папулісцкія абяцанкі добрага жыцьця і высокіх заробкаў народу цалкам і інтэлігенцыі ў прыватнасьці ўжо распачаў. Пры гэтым найменш ён думае пра законнасьць і свабоду выбараў, бо на карту пастаўленая будучыня не Беларусі, а яго асабістая...

**Андрэй НАЛІВА.**

# Краіна без дзяржаўнай прэсы

## *Нататкі карэспандэнта "ПнВ" пра наведаньне Швецыі*

Падзелу на дзяржаўную і недзяржаўную прэсу ў Швецыі няма і ніколі не было. Усе выданьні тут недзяржаўныя, хіба што яны могуць належаць пэўным палітычным партыям, частка якіх займае моцныя пазіцыі ва ўладзе. Ці ўплывае прынцып прыватнасьці на знакамітую цягу шведаў да чытаньня, сказаць цяжка, але факт, што ў гэтай краіне з насельніцтвам у 9 мільёнаў чалавек выдаецца прыблізна па два асобнікі друкаваных выданьняў на кожнага жыхара... У Швецыі выходзіць блізу 130 штодзённых газетаў, толькі пяць з якіх — агульнанацыянальныя. Уся астатняя штодзённая прэса мае статус рэгіянальнай. І гэта цалкам натуральна для краіны, у якой разьвіта мясцовае самакіраваньне і якая лічыцца адной з самых "чытаючых" ня толькі ў Еўропе, але і ў сьвеце!

Любое паселішча з насельніцтвам у 15 тысячаў чалавек і болей тут мае сама менш дзьве мясцовыя газеты. Яны звычайна адрозьніваюцца некаторымі нюансамі асьвятленьня пытаньняў палітыкі – умоўна кажучы, адна з газетаў схільная да погляду правых партыяў, другая – да левых. Шведзкі ўрад вітае і заахвочвае плюралізм на старонках перыёдыкі. Гэта часам выглядае зусім нязвыкла для нас. Скажам, калі адно з двух мясцовых выданьняў пачынае перажываць эканамічныя цяжкасьці, улады практыкуюць падтрымку яго. Прычынай гэтага і палітыкі, і самі журналісты называюць найперш здаровы сэнс, які не дазваляе, каб адна газета зачынілася з-за банкруцтва: тады ў чытачоў не застанецца выбару паміж "левай" і "правай" прэсай, а адсутнасьць выбару і магчымасьці параўноўваць і аналізаваць розныя меркаваньні і погляды — неад'емны элемент свабоды слова і сумленьня.

Бальшыня шведзкіх газетаў — да 90 адсоткаў — распаўсюджваецца праз падпіску. Але сама сістэма распаўсюджваньня вельмі адрозьніваецца ад той, да якой прывыклі мы. Да 6 гадзінаў раніцы падпісчыкі атрымліваюць сьвежыя нумары сваіх улюбёных выданьняў дзякуючы адмысловай дыстрыб'ютарскай службе.

На вуліцах Стакгольму вы ня зможаце не заўважыць і ацаніць вартасьці паралельна новай нават тут зьявы – бясплатнай прэсы. У цэнтры гораду ледзь не на кожным кроку вам прапаноўваюць сьвежыя нумары "Metro" альбо "Everyday". За апошнія паўгады ў шведзкай сталіцы пачала выдавацца яшчэ і трэцяя бясплатная газета. Гэткія выданьні, па словах стакгольмскіх журналістаў, не адрозьніваюцца асаблівай сур'ёзнасьцю: на іхніх старонках ніколі ня знойдзеш аналітычных матэрыялаў альбо, скажам, інфармацыю пра палітычныя і эканамічныя падзеі ў сьвеце. Штодзённая бясплатная шматстаронкавая прэса забітая рознага кшталту рэкламай, навінамі з жыцьця каралеўскай сям'і, зорак сусьветнай папмузыкі і кіно. Значную частку складае разнастайная інфармацыя для жыхароў самога гораду Стакгольму і яго прыгарадаў.

З другога боку салідныя выданьні каштуюць дорага. І чым вышэйшы кошт таго ці іншага выданьня, тым больш яны элітарныя і сур'ёзныя ў асьвятленьні падзеяў. Цікава, што гэтыя газеты маюць ня меншы, а нават большы, чымсьці іншыя, наклад. Напрыклад, наклад газеты Svenska Dagbladet – 200 тысячаў асобнікаў – займае другое месца ў краіне. У мінулую восень Svenska Dagbladet з фармату A2 перайшла на фармат A3 (як, напрыклад, у беларускай "Нашай свабоды"). Цікава, што самі журналісты на Захадзе называюць фармат A3 "таблоідным", ня ўкладваючы ў гэтае слова той негатыўны сэнс, да якога мы пачалі прызвычайвацца. "Таблоід" – не азначэньне, зьвязанае з характарыстыкай зьместу матэрыялаў выданьня, а толькі тэхнічны тэрмін. Што да таблоіднага фармату, дык ён робіцца ўсё больш распаўсюджаным ня толькі на Захадзе, але і ў нас, у Расіі, іншых постсавецкіх краінах – з-за зручнасьці для чытача, які можа больш-менш вольна гартаць таблоід нават у людным вагоне метро ці тралейбусе.

Шведзкія журналісты не абмежаваныя цэнзурай у сваёй штодзённай працы. Але, як распавёў нам загадчык аддзелу замежнай інфармацыі Маціяс Лундбак, тутэйшыя калегі маюць іншыя абмежаваньні ў выказваньнях, і гэта абумоўлена і прынятымі этычнымі нормамі, і стылістыкай працы той ці іншай газеты. У Svenska Dagbladet, якая мае збольшага культурніцкі накірунак, палітычным навінам, да прыкладу, адведзеныя толькі дзьве паласы з дваццаці чатырох – другая і трэцяя; у выпадку нейкіх важных палітычных падзеяў у сьвеце яны могуць таксама асьвятляцца на развароце пятай-шостай паласы. І ўсё. Журналісты пры гэтым імкнуцца ўстрымлівацца ад уласных ацэнак падзеяў і вялікіх каментароў да іх. Але асабліва пільна газетчыкі ставяцца да этычных пытаньняў у матэрыялах на крымінальныя тэмы. Калі арыштаваны чалавек па абвінавачаньні ў любым, хоць самым цяжкім, злачынстве, газета ня стане цалкам друкаваць яго імя і прозьвішча да рашэньня суда, а часта нават пасьля яго — гэта лічыцца парушэньнем правоў чалавека, у тым ліку і родных падазраваемага, бо кідае цень асуджэньня на ўсю ягоную сям'ю. Маціяс Лундбак жартуе, што, здараецца, гэткая абачлівасьць прэсы сее паміж чытачамі насьцярожанасьць і параджае сьмешныя сітуацыі. Надрукавалі нататку пра нейкага "30-гадовага К., які падазраецца ў згвалтаваньні" – усе 30-гадовыя пачынаюць лавіць на сабе цікаўныя позіркі знаёмых і чуюць жартаўлівыя, але надакучлівыя пытаньні... Але гэта ўсё ж лепш, чым прылюднае абвінавачваньне газетай таго, чыя віна яшчэ можа быць абвергнутая судом, лічыць пан Маціяс. Дарэчы, калі суд апраўдвае чалавека, які правёў нейкі час за кратамі, газеты, наадварот, асьвятляюць гэтую гісторыю з усімі імёнамі яе герояў як прыклад памылкі ў працы праваахоўных органаў. І органы мусяць перапрашацца перад тым, каго арыштавалі памылкова.




***Рэаліі беларускага жыцьця:*** *незалежная газета "Наша свабода" з белымі паласамі замест чарговага сатырычнага выпуску "Стынгер". У Швецыі такога не магло быць... У Швецыі ёсьць усё, але няма цэнзуры...*

За этычным бокам публікацыяў у шведзкай прэсе сочыць адмысловая дзяржаўная служба пры ўрадзе – Pressens Opinionsnamd, якая ў выпадку, прыкладам, абразы грамадзяніна газетай можа прымусіць рэдакцыю прасіць прабачэньня публічна альбо праз суд паспрабаваць накласьці на яе штраф. Праўда, нікому не прыйдзе ў галаву з-за гэтага пагражаць выданьню закрыцьцём. За выкананьнем правоў прэсы, у сваю чаргу, таксама сочыць адмысловая службовая асоба – Pressombudsmannen. Выпадкі пакараньня таго ці іншага выданьня, хоць і вельмі рэдка, але здараюцца ў Швецыі. Выпадкаў, калі ўціскаюцца правы прэсы, амаль не бывае, кажуць тутэйшыя журналісты.

Шведзкія журналісты таксама задавалі нам пытаньні пра ўмовы працы іх калегаў на Беларусі. Самае цікавае пытаньне падаецца трохі сьмешным: мяне запыталі, ці праўда, што ў нашай краіне ёсьць цэнзура...

**Тацяна СЬНІТКО.**

**Права на волю. Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.**
**Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220013 Менск, а/с 49.**
**E-mail:viasna@spring96.org**
**www.spring96.org**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ГА ПЦ "Вясна"*